КРЫНІЦА

№5 (29) ЧЭРВЕНЬ-ЛІПЕНЬ 2012 www.bchd.info



# Віншуем з 95-мі ўгодкамі заснавання БХД

**25 траўня Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя адзначыла 95-я ўгодкі заснавання: роўна 95 гадоў таму 24-25 траўня 1917 года ў Менску адбыўся З'езд беларускага каталіцкага духавенства, які абвясціў пра стварэнне Хрысціянскай Дэмакратычнай Злучнасці (БХДЗ), якая ў хуткім часе займела назву Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя. Аркамітэт БХД шчыра віншуе ўсіх сваіх сяброў і прыхільнікаў.**

24-26 траўня ў шмат якіх мясцінах Беларусі актывісты Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі правялі акцыі па ўшанаванні памяці айцоў-заснавальнікаў БХД ксяндзоў Адама Станкевіча, Вінцэнта Гадлеўскага і іншых.

У Менску 3 чэрвеня адбыўся круглы стол, прысвечаны гісторыі і перспектывам Хрысціянскай Дэмакратыі ў Беларусі.

Падчас канферэнцыі выступілі беларускія і замежныя палітыкі, сацыёлагі, палітолагі, якія выказалі сваё бачанне мінулага, сучаснасці і будучыні Хрысціянскай Дэмакратыі ў Беларусі ў прыватнасці і ў Еўропе наогул.

# БХД распачынае Год памяці



**95 гадоў таму, 25 траўня 1917 году ў менскім Катэдральным касцёле адбыўся сход каталіцкіх святароў, які паклаў пачатак Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, паведаміла на адмысловай прэсавай канферэнцыі адна з лідараў цяперашняй БХД Валерыя Чарнаморцава:**

«У гістарычнай памяці беларусаў склалася такое, што адраджэнцамі былі ў асноўным сацыялісты і камуністы. І амаль што забыты такі альтэрнатыўны шлях беларускага адраджэньня, як хрысьціянская дэмакратыя».

Сярод айцоў-заснавальнікаў і ідэолягаў БХД былі такія вядомыя хрысціянскія дзеячы, як Адам Станкевіч і Вінцэнт Гадлеўскі, якога фашысты расстралялі на каталіцкі Вялікдзень у 1942 годзе. Адам Станкевіч загінуў ад рук бальшавікоў у ГУЛАГу. На ўшанаванне іх памяці, а таксама ўсіх дзеячоў хрысціянскага адраджэння, актывісты БХД распачынаюць Год памяці, які будзе праходзіць у выглядзе вандровак і экскурсій, мастацкіх выставаў, навуковых канфэрэнцый.

У часе Года памяці стартуе кампанія па змяненні савецкіх назваў вуліц, на якіх знаходзяцца касцёлы, у розных гарадах Беларусі.

«У многіх гарадах цэнтральныя вуліцы, на якіх знаходзяцца касцёлы, маюць назвы Савецкая, Леніна і гэтак далей. Мы паспрабуем звярнуць увагу ўладаў на тое, каб гэтым вуліцам былі вернуты гістарычныя назвы або ім далі назвы, непасрэдна звязаныя з беларускай гісторыяй», — адзначыў адказны сакратар БХД Дзяніс Садоўскі.

Садоўскі паведаміў, што кампаніі ўжо пачаліся ці будуць пачаты больш чым у 10 гарадах Беларусі. Напрыклад, у Мінску, Ашмянах, Слоніме ўладам будзе прапанавана перайменаваць вуліцы ў гонар грамадска-палітычных і рэлігійных дзеячаў Адама Станкевіча і Вінцэнта Гадлеўскага.

Актывісты БХД спадзяюцца, што да акцыі ўшанавання памяці хрысціянскіх дэмакратаў-адраджэнцаў далучацца палітычныя партыі і рухі, шырокая грамадскасць, а таксама каталіцкі касцёл.

Таксама лідары БХД перадалі адмысловы зварот кіраўніцтву Каталіцкага Касцёла ў Беларусі, апроч таго ўсклалі кветкі да крыжа пры катэдральным касцёле ў гонар 95-й гадавіны БХД і ў памяць яе заснавальнікаў.

# У Сібіры ўшанавалі памяць айцоў Андрэя Цікоты і Адама Станкевіча

**22 траўня 2012 году на былых лягерных могілках каля пасёлку Навачунка, на 116-м кіламетры ад Тайшэту, дзе пахаваны вядомы беларускі рэлігійны і грамадска-культурны дзеяч, грэка-каталіцкі манах-марыянін, архімандрыт Андрэй Цікота, быў пастаўлены памятны крыж і адслужаная памінальная імша.**

23 траўня такія самыя ўрачыстасці адбыліся на былых лагерных могілках у ваколіцах вёскі Шаўчэнка, каля чыгуначнай станцыі Тапарок на 50-м кіляметры ад Тайшэту, дзе знайшоў вечны спачынак адзін з патрыярхаў беларускага хрысціянскага руху першай паловы XX стагоддзя, рэлігійны, палітычны і грамадска-культурны дзеяч ксёндз Адам Станкевіч.



Ад 19 траўня разам з беларускім гісторыкам Юрасём Гарбінскім, які выяўляе акалічнасці і месца смерці гэтых вядомых постацяў беларускай гісторыі, пад Тайшэтам знаходзіцца беларускі каталіцкі святар, манах-марыянін Вячаслаў Пялінак (віцэ-пастулятар бэатыфікацыйных працэсаў архімандрытаў Андрэя Цікоты і Фабіяна Абрантовіча), які асвяціў памятныя крыжы і адслужыў першыя памінальныя службы на месцах пахаванняў архімандрыта Андрэя Цікоты і ксяндза Адама Станкевіча.

У акцыях ушанавання беларускіх пакутнікаў – вязняў савецкага ГУЛАГу прынялі ўдзел грамадскасць, вучнёўская моладзь, прадстаўнікі адміністрацыі з паселішчаў Навачунка і Квіток Тайшэцкага раёну.

# У Гомелі ўшанавалі заснавальнікаў БХД

**У Гомелі 24 траўня, напярэдадні 95-й гадавіны заснавання Беларускай Хрысціянска-Дэмакратычнай Злучнасці, мясцовыя актывісты БХД ушанавалі памяць айцоў-заснавальнікаў партыі і ахвяр палітычных рэпрэсій 1930-1940-х гадоў.**

Як распавёў Гомельскі абласны каардынатар БХД Юры Клімовіч, ён разам з пяццю актывістамі (Алесем Яўсеенкам, Віктарам Адзіночанкам, Алесем Сіваковым, Марыяй Багдановіч і Змітром Лінковым) скіраваліся да месца масавых расстрэлаў пад Гомелем. Да мемарыяльных крыжоў пад Гомелем і ў бліжэйшым урочышчы яны ўсклалі кветкі, а таксама памаліліся за загінулых айцоў-заснавальнікаў БХД.

Такія малітвы і акцыі ўшанавання памяці айцоў Адама Станкевіча, Вінцэнта Гадлеўскага і іншых ксянзоў-заснавальнікаў БХД праходзяць у многіх мясцінах Беларусі.



# У Мосары і Глыбокім адбылася Імша ў гонар ксяндзоў-заснавальнікаў БХД

**У чацвер 24 траўня ў вёсцы Мосар Глыбоцкага раёна адбылася Святая Імша ў гонар ксяндзоў, удзельнікаў З'езду каталіцкага духавенства 1917 году ў Менску, які роўна 95 гадоў таму абвесціў пра стварэнне Хрысціянскай Дэмакратычнай Злучнасці (БХДЗ), якая ў хуткім часе пачала называцца Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя.**

Адправіў імшу кс. Аляксей Юркайць. Ён таксама нагадаў парафіянам пра гэтыя падзеі ў сваім казанні да вернікаў.

Сябры БХД Таццяна Смоткіна і Зміцер Лупач усклалі кветкі да Крыжа, які побач з Глыбоцкім касцёлам, у памяць тых падзей.

Такія малітвы і акцыі ўшанавання памяці айцоў Адама Станкевіча, Вінцэнта



Гадлеўскага і іншых ксянзоў-заснавальнікаў БХД праходзяць у многіх гарадах Беларусі.

Нагадаем, роўна 95 гадоў таму, 24-25 траўня 1917 году ў Мінскім кафедральным касцёле, калі была аднаўлена Менская дыяцэзія, адбыўся З'езд беларускага каталіцкага духавенства, на якім сабраліся 30 ксяндзоў. З'езд прыняў пастанову аб арганізацыі Хрысціянска-Дэмакратычнай партыі, якая пазней была адной з найбуйнейшых беларускіх партый у Заходняй Беларусі. Таксама на З'ездзе былі прынятыя пастановы аб беларусізацыі каталіцкага Касцёлу на ўсёй прасторы Беларусі, аб імкненні да незалежнасці Беларусі, аб навучанні клерыкаў-беларусаў па-беларуску, заснаванні беларускіх газет і часопісаў, кніжак каталіцкага напрамку і іншыя. Пазней амаль усе ўдзельнікі гэтага З'езду папакутніцку загінулі ў ГУЛАГу ці былі расстраляныя фашыстамі падчас 2-й сусьсветнай вайны.

# Кветкі да 95-годдзя БХД у Бабруйску

**Сябры БХД ў Бабруйску правялі акцыю ўшанавання памяці ксяндзоў-заснавальнікаў БХД з нагоды 95-годдзя ўтварэння партыі. У пятніцу 25 траўня яны ўсклалі кветкі да крыжа бабруйскага касцёлу.**

Як паведаміла прэс-службе БХД кіраўнічка бабруйскага аркамітэту, магілёўская абласная каардынатарка БХД Таісія Кабанчук, сябры БХД таксама распавялі парафіянам і выпадковым мінакам пра 95-я ўгодкі заснавання БХД.

# У Асіповічах памяць заснавальнікаў БХД ушанавалі кветкамі

**У Асіповічах мясцовыя актывісты Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі таксама далучыліся да ўшанавання памяці айцоў-заснавальнікаў БХД. Пра гэта прэсавай службе распавёў сябар БХД, дэпутат Асіповіцкага райсавету Аляксей Цюлькоў.**

Актывісты на знак памяці ўсклалі кветкі ля мясцовага касцёла Божай Міласэрнасці, а таксама памаліліся за супакой спачылых папярэднікаў.

Малітвы і акцыі ўшанавання памяці айцоў Адама Станкевіча, Вінцэнта Гадлеўскага і іншых ксянзоў-заснавальнікаў БХД гэтымі днямі праходзяць у многіх мясцінах Беларусі. У прыватнасці, яны ўжо адбыліся ў Мосары, Глыбокім, Гомелі, Горадні, Слоніме, Менску і Паставах, а таксама нездалёк ад сібірскага гораду Тайшэт (Расея), дзе загінулі святары Адам Станкевіч і Андрэй Цікота.

# У Горадні памяць айцоў-заснавальнікаў БХД ушанавалі ў Фарным касцёле

**Адмысловымі малітвамі ўшанавалі ў гарадзенскім Фарным касцёле чальцы абласной філіі БХД памяць і 95-гадовы юбілей заснавання папярэдніцы Беларускай Хрысціянскай дэмакратыі - Беларускай Хрысціянскай Злучнасці.**

У памяць айцоў заснавальнікаў - Адама Станкевіча і Вінцэнта Гадлеўскага -былі запаленыя свечкі і лампадкі, а таксама прачытаныя ў іх гонар малітвы.

Малітвы і акцыі ўшанавання памяці айцоў Адама Станкевіча, Вінцэнта Гадлеўскага і іншых ксянзоў-заснавальнікаў БХД гэтымі днямі праходзяць у многіх мясцінах Беларусі. У прыватнасці, яны ўжо адбыліся ў Мосары, Глыбокім, Гомелі, Горадні, Слоніме, Менску, Паставах і Асіповічах, а таксама нездалёк ад сібірскага гораду Тайшэт (Расея), дзе загінулі святары Адам Станкевіч і Андрэй Цікота.



# У Менску прайшла партыйная школа для менскіх актывістаў БХД

**У Менску 1 і 9 траўня адбылася чарговая партыйная школа для менскіх актывістаў Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі.**

Падчас навучання адбыліся лекцыі па наступных тэмах: Дзейнасць палітычных партый у Беларусі, планаванне і арганізацыя лакальных акцый, праца ў інтэрнэце і сацыяльных сетках ды напісанне прэс-рэлізаў.

Таксама падчас навучання прайшлі гарачыя дыскусіі на розныя тэмы мясцовай палітыкі.



«Адна з тэм – гэта адсутнасць паркоўак каля шматпавярховых дамоў і праблемы, якія гэта выклікае сярод жыхароў. На гэтым прыкладзе былі распрацаваны паступовыя дзеянні для вырашэння дадзенай праблемы: збор подпісаў, асвятленне праблемы з дапамогай СМІ, сумесная праца з уладамі і атрыманне вынікаў, а таксама распавядалася пра ўсе акалічнасці, якія могуць паўстаць пры працы на розных узроўнях. Гэты праклыд і нятолькі паказаў, як працаваць на мясцовым узроўні сярод насельніцтва», – адзначыў удзельнік семінару Ігар Лабкоў.

# У Горадні прайшла чарговая партыйная школа для актывістаў БХД

**У Гародні 5-6 траўня адбылася чарговая партыйная школа для актывістаў Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Удзел у ёй узялі прадстаўнікі ад усіх партыйных суполак БХД у Гарадзенскай вобласці – агулам больш за 30 чалавек.**

Падчас навучання адбыліся лекцыі па наступных тэмах: Дзейнасць палітычных партый у Беларусі, планаванне і арганізацыя лакальных акцый, праца ў інтэрнэце і сацыяльных сетках ды напісанне прэс-рэлізаў.

У хуткім часе такія школы прайдуць ва ўсіх абласцях Беларусі.

«Вельмі важна ўжо зараз рыхтавацца да будучыхператварэнняў у краіне на падмурку хрысціянска-дэмакратычных каштоўнасцяў», – адзначыў адказны сакратар БХД Дзяніс Садоўскі.

# Партыйная школа для актывістаў БХД прайшла ў Гомелі



**У Гомелі 19-20 траўня адбылася партыйная школа для актывістаў Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Удзел у ёй узялі агулам каля 30 чалавек.**

«Такія навучальныя семінары, безумоўна, карысныя для нашых актывістаў. Іх трэба праводзіць перыядычна, штогод, бо назапашваецца досвед працы, прыходзяць новыя людзі», – адзначыў гомельскі абласны каардынатар БХД Юры Клімовіч.

– Вельмі карысным былі менавіта практычныя трэнінгі па планаванні лакальных кампаній, па напісанні прэс-рэлізаў і па працы ў сацыяльных сетках. З тымі мясцовымі кампаніямі, што былі распрацаваныя падчас семінараў, можна ўжо выходзіць да людзей і пачынаць іх рэалізоўваць».

# У Бабруйску адбылася партыйная школа БХД для Магілёўшчыны

**У Бабруйску 26-27 траўня адбылася партыйная школа для актывістаў Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі Магілёўскай вобласці. Удзел у ёй узялі прадстаўнікі Бабруйску, Магілёва, Крычава, Асіповічаў і іншых мястэчак Магілёўшчыны – агулам больш за 30 чалавек.**

Падчас навучання прайшлі лекцыі і семінары па наступных тэмах: Дзейнасць палітычных партый у Беларусі, планаванне і арганізацыя лакальных акцый, праца ў інтэрнэце і сацыяльных сетках ды напісанне прэс-рэлізаў. Практычная частка партыйнай школы была накіраваная на распрацоўку планаў лакальных кампаній, у прыватнасці для падтрымкі працы каардынатара БХД у Асіповічах, дэпутата Асіповіцкага райсавета Аляксея Цюлькова.

Як распавёў прэс-службе БХД намеснік магілёўскага гарадскога каардынатара аркамітэта БХД Алег Аксёнаў, у выніку семінараў удзельнікі атрымалі новыя веды і практычны досвед для правядзення актывістамі канкрэтных мясцовых кампаній.

# У Віцебску прайшла партыйная школа для актывістаў БХД

**У Віцебску 2-3 чэрвеня прайшла абласная партыйная школа для актывістаў Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Удзел у навучанні, якое праходзіла ў інтэрактыўным фармаце, узялі 20 чалавек.**

«Мы лічым гэтую школу добрым крокам да малых лакальных перамог і паспяховай рэкламы БХД. Мы натхніліся і гатовыя з новымі сіламі працаваць для шчасця жыхароў нашай краіны, для Беларусі і для БХД», – адзначыла віцебская абласная каардынатарка БХД Таццяна Севярынец.



# Пад Бабруйскам прайшла сустрэча сябраў БХД

**Пад Бабруйскам 13 траўня адбылася сустрэча сябраў аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя».**

У сустрэчы, якая праходзіла ў нефармальнай абстаноўцы на беразе ракі Бярэзіна, удзельнічалі больш за 20 чалавек – з большага новыя сябры БХД, распавяла каардынатарка аргкамітэта па Магілёўскай вобласці Таісія Кабанчук.

Падчас сустрэчы чыталіся вершы Янкі Купалы, а таксама адбылася выстава малюнкаў дачкі дэпутаткі ад БХД Жанны Шчарбінінай.

«Сустрэча праходзіла ў сяброўскай атмасферы», – адзначыла Таісія Кабанчук.

# Пад Паставамі прайшла сустрэча сяброў і прыхільнікаў БХД



**Каля Паставаў 25-26 траўня сябры Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі зладзілі пікнік у гонар святароў Адама Станкевіча і Вінцэнта Гадлеўскага. Прыйшло шмат людзей, якія з удзячнасцю ўшанавалі іх памяць.**

Партыйцы зладзілі гульню ў футбол паміж таварыскімі камандамі, а затым шашлык і святочны стол.

«Размова праходзіла файна і сціпла. Пасля яе засталіся сустракаць світанак, які быў вельмі цудоўны», – адзначыў мясцовы каардынатар БХД Уладзімір Казлоўскі.

# Менскія сябры і прыхільнікі БХД сустрэліся ў нефармальнай абстаноўцы

**На прыканцы траўня пад Менскам прайшла сустрэча гарадскіх актывістаў і прыхільнікаў Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Удзел у сустрэчы ўзялі 36 чалавек, у тым ліку сустаршыня БХД Віталь Рымашэўскі і адказны сакратар Дзяніс Садоўскі.**



У нефармальнай абстаноўцы за смачнымі шашлыкамі ўдзельнікі сустрэчы абмеркавалі сітуацыю ў краіне, планы на будучыню, лепш пазнаёміліся адзін з адным і проста пабавілі добра час.

«Такія нефармальныя сустрэчы вельмі важныя і карысныя. Яны дапамагаюць усталяваць больш шчыльныя кантакты ўнутры партыі, даведацца адзін пра аднаго. Дый увогуле яны даюць людзям добрую магчымасць адпачыць у цудоўнай кампаніі», – адзначыла сакратарка менскай арганізацыі БХД Марына Хоміч.

# Пад Гомелем і Кобрынам прайшлі сустрэчы сяброў і прыхільнікаў БХД

**Пад Гомелем і Кобрынам прайшлі нефармальныя сустрэчы-пікнікі гомельскіх і берасцейскіх абласных актывістаў Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі.**

Удзел у пікніку пад Гомелем узялі 18 чалавек. Напачатку сустрэчы перад імі выступіў гомельскі абласны каардынатар БХД Юры Клімовіч, які распавёў пра гісторыю ўтварэння партыі, якая 25 траўня святкавала сваё 95-годдзе. Апроч таго, актывісты ўзгадалі ў супольнай малітве ўсіх заснавальнікаў БХД, якія загінулі падчас рэпрэсій.

Берасцейскія ж актывісты вырашылі выехаць на пікнік пад Кобрын. У гэтай сустрэчы ўдзельнічалі каля 25 чалавек, у тым ліку і сустаршыня БХД Георгі Дзмітрук.

«Цудоўна пасядзелі, паразмаўлялі, абмеркавалі сучасную сітуацыю, за цудоўнымі шашлыкамі правялі невялікую



нараду. Усё было цудоўна, болей такіх сустрэч», – адзначыў сустаршыня БХД.

# Гарадзенская арганізацыя БХД распачне кампанію «За малы памежны рух»




**15 траўня на чарговым пасяджэнні сяброў Гарадзенскай гарадской арганізацыі БХД было прынята рашэнне распачаць кампанію ў падтрымку рэалізацыі Дамовы «Аб малым памежным руху з Польшчай». Актывісты БХД плануць правесці шэраг мерапрыемстваў у падтрымку рэалізацыі МПР беларускім урадам ужо ў траўні.**

Мэтай кампаніі «За малы памежны рух з Польшчай» з'яўляецца аказанне ціску на беларускія ўлады з мэтай паскарэння ўвядзення беларускім бокам механізму малога прымежнага руху з Польшчай. Актывісты плануюць прыцягнуць увагу грамадства і мясцовых органаў улады да праблемы зацягвання рэалізацыі МПР з Польшчай з боку беларускага ўраду. У рамках ініцыятывы будзе распаўсюджана інфармацыя аб перавагах і асаблівасцях механізму малога памежнага руху. Актывісты спадзяюцца да шырокага далучэння да гэтай ініцыятывы жыхароў памежных з Польшчай тэрыторый, а таксама сяброў іншых грамадскіх арганізацый і палітычных партый.

У рамках кампаніі актывісты БХД запланавалі правядзенне шэрагу пікетаў і прэс-канферэнцый для прыцягнення ўвагі грамадскасці да праблемы, распаўсюд інфармацыйных матэрыялаў у памежных рэгіёнах, арганізацыю сустрэч з грамадзянамі і шырокае выкарыстанне інтэрнэту і сацыяльных сетак.

Мікалай Баўсюк, кіраўнік абласной арганізацыі БХД: «Згодна з афіцыйнымі крыніцамі Беларусь планавала запуск дамовы ў другой палове 2011 года, аднак прайшло ўжо болей за паўтары гады з часу прыняцця закона, а беларускі ўрад да гэтага часу не прыступіў да рэалізацыі дамовы «Аб МПР з Рэспублікай Польшчай». Беларускія ўлады неаднаразова падкрэслівалі палітычны характар зацягвання пытання аб увядзенні ў дзеянне дамовы аб МПР, звязаны са складанымі польска-беларускімі міждзяржаўнымі адносінамі. Аднак ад гэтага не павінны цярпець простыя людзі, таму мы вырашылі прыкласці свае намаганні ў падтрымку рэалізацыі гэтай дамовы».

# У Берасці і Віцебску прайшлі акцыі ў гадавіну рэфэрэндуму аб змене дзяржаўнай сымволікі

**Берасцейскія і віцебскія актывісты аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» і Руху «За свабоду» зладзілі акцыі ў гонар палітвязня Сяргея Каваленкі, прымеркаваныя да ўгодкаў рэфэрэндуму 1995 году, які адмяніў бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня».**

У Берасці ўдзельнікі акцыі прасілі аўтааматараў пачапіць бел-чырвона-белыя стужкі на антэны сваіх аўтамабіляў і такім чынам ушанаваць гістарычныя сымвалы Беларусі.

«Кіроўцы з задавальненнем чаплялі БЧБ-стужкі на антэны машын, таксама падыходзілі звычайныя людзі і прасілі такія стужачкі. Прыемна было бачыць, што беларускі народ не забыўся пра нашыя святыя нацыянальны сымвалы і шануе іх. Нагадвалі людзям, што зараз за гэты сцяг у турме пакутуе Сяргей Каваленка», - адзначыў берасцейскі абласны каардынатар БХД Зміцер Шурхай.

«У Віцебску мы чаплялі бел-чырвона-белыя стужкі на дрэвы і слупы, каля дарог, каб яны былі ўсім бачныя», - паведаміла віцебская абласная каардынатарка БХД Таццяна Севярынец.

Апроч таго, актывісты распавядалі мінакам пра забароненую сымволіку і пра лёс Сяргея Каваленкі.

# У Берасці актывісты МХД падтрымалі палітвязняў

**У Берасці ўвечары 19 траўня актывісты моладзевага крыла Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі вывесілі расцяжку з тэкстам «Свабоду палітзвязням!». Месцам для банэра яны абралі вуліцы Маскоўская.**

Як патлумачыў актывіст МХД Уладзіслаў:

«Сёння за свае погляды ў турме па-ранейшаму застаюцца Мікалай Статкевіч, Мікалай Аўтуховіч, Зміцер Дашкевіч, Павал Севярынец, Алесь Бяляцкі, Сяргей Каваленка і іншыя. Сотні людзей па ўсёй краіне штодня пераследуюцца рэжымам і пакутуюць ад яго здзекаў. Мы жадаем нагадаць грамадству, што яны жывуць у краіне, у якой немагчыма свабодна выказваць свае погляды, калі яны не падабаюцца аднаму хакеісту і аматару гарбаты з малінавым варэннем».

«Наш банар бачылі і кіроўцы машын, якія праязджалі побач і пешаходы. Будзем спадзявацца, яны задумаюцца адносна таго, што адбываецца ў нашай краіне», - адзначыў ён.

# У Менску моладзь БХД вывесіла расцяжку «Свабоду Сяргею Каваленку!»

**Маладыя хрысціянскія дэмакратыя 15 траўня правялі акцыю салідарнасці з палітвязнем Сяргеем Каваленкам.**

На мосце па вуліцы Даўгабродскай яны вывесілі расцяжку «Свабоду Сяргею Каваленку!», якая правісела 40 хвілін у раніцу.



# У Гомелі прайшла акцыя салідарнасці з палітвязнямі

**24 траўня гомельскія актывісты БХД і Еўрапейскай Беларусі правялі акцыю салідарнасці з палітычнымі вязнямі.**

Актывістамі былі расклеены партрэты палітвязняў Паўла Севярынца, Зьмітра Дашкевіча, Мікалая Статкевіча і Алеся Бяляцкага каля пад'ездаў жылых дамоў.

Акцыя прайшла без затрыманняў.



# Народныя дэпутаты праводзяць кампанію за добраўпарадкаванне двароў у Мастах

**Народны дэпутат Зміцер Кухлей накіраваў камунальшчыкам калектыўны зварот грамадзян з просьбай зрабіць рамонт дарог на калядамовых тэрыторыях па вуліцах Цэткін і Будаўнікоў у Мастах. Пад зваротам падпісалася болей за сорак жыхароў шматпавярховых дамоў, якія ўжо неаднаразова спрабуюць адстаяць свае інтарэсы ў кабінетах мясцовых чыноўнікаў.**

Народныя дэпутаты ад БХД Зміцер Кухлей і Зміцер Краснапеўцаў на працягу ўжо двух гадоў аказваюць дапамогу жыхарам вуліц Цэткін і Будаўнікоў.

Зміцер Кухлей: «Мы разумеем, што бюджэтныя сродкі абмежаваныя. Аднак яны абмежаваны ва ўсіх, нават заможных краінах, таму і існуе такое паняцце як «бюджэтнае планаванне». На жаль, нашы саветы і чыноўнікі досыць вальготна ставяцца да гэтага працэсу і вельмі часта не абцяжарваюць сябе выкананнем прынятых рашэнняў. Калі б прадстаўнікі БХД былі ў Мастоўскім райсавеце, яны маглі б больш эфектыўна кантраляваць выдаткаванне бюджэтных сродкаў, у тым ліку і тых, што ідуць на добраўпарадкаванне».



# У Берасці актывісты моладзевага крыла БХД дарылі дзецям цацкі




**У Берасці апоўдні 2 чэрвеня актывістамі МХД была праведзена акцыя, прысвечаная Дню абароны дзяцей. Каля цэнтральнага ўнівермага ўдзельнікі акцыі раздавалі дзецям цацкі, а іх бацькам - буклеты БХД «За сямейныя каштоўнасці».**

Як патлумачыў актывіст Зміцер, «Акцыя павінна была прайсці 1-га чысла, але з-за дрэннага надвор'я яе давялося перанесці. Большасць цацак нашы хлопцы выцягнулі ў адмысловым аўтамаце, другая ж частка была падораная прыхільнікамі БХД».

Акцыя праводзілася ў рамках кампаніі «Моцная сям'я - моцная Беларусь». Усяго было раздадзена каля 30 цацак і некалькі дзесяткаў буклетаў, прысвечаных сямейным каштоўнасцям.

# Малітва за Беларусь



**Першы артыкул Юліі Фраловай выклікаў вялікую цікавасць і быў адным з самых папулярных на нашым сайце. Прадстаўляем вашай увазе яе чарговы артыкул. Юля Фралова – каталіцкая верніца, аніматар каталіцкага Руху Святло-Жыццё, студэнтка Тэалогіі папскага аддзелу тэалогіі ў Варшаве, сябар Нацыянальнай Рады БХД.**

«Я – каталіцкая верніца, якая шмат год прысвяціла справе новай евангелізацыі. Госпад праз доўгі час рыхтаваў мяне да таго, каб уключыцца таксама ў справу вызвалення маёй Айчыны ад духовага зла, якое дае свой моцны след у звычайным штодзённым жыцці. Ён паклаў мне гэта глыбока ў сэрца і ўпісаў у маё пакліканне. Хачу і павінна падзяліцца з вамі тым, што Бог падказвае нам зрабіць ў складанай сітуацыі нашай краіны.

Па-першае, хацела б звярнуць увагу, што Беларусь патрабуе вызвалення ад усялякага зла, карані якога знаходзяцца ў савецкай сістэме нашага мінулага. Сённяшняя сістэма збудаваная на падмурках хлусні і страху, бязбожжа. Да канца мы не прайшлі ні ачышчэння, ні вызвалення, ні сапраўднага навяртання. Тое, што сёння адбываецца, мае свае карані ў мінулым, калі пераследваліся вернікі, руйнаваліся касцёлы, зачыняліся цэрквы, забіваліся нявінныя людзі.

Магчыма, мы, людзі, якія нарадзіліся ў гэтай краіне, гэтага не бачым, забыліся, нам сорамна ў гэтым прызнацца. Але, калі людзі з іншай краіны прыязджаюць, то яны гэта адразу ж заўважаюць: назвы вуліц (Савецкая, Камуністычная, Рэвалюцыйная, Леніна), помнікі Леніну, Сталіну, нерэабілітаваныя і непахаваныя годна сотні тысячаў людзей, якія ляжаць у лясах, якіх пад'ябальску расстралялі, забілі, закапалі. Гэтая кроў, нібы кроў Абэля, крычыць помстай да неба. І ў такой сістэме мы знаходзімся, у такой сістэме мы жывем, у такой сістэме мы выраслі. Гэта грэшная сістэма. І першачарговае вызваленне Беларусі павінна пачацца з пакаяння, з навяртання, з перапрашэння за грахі. Але за грахі трэба не толькі перапрасіць, але і выправіць усю віну. Трэба асудзіць гэтую сістэму, трэба ўсё назваць па імені, стаць перад Богам, перад сабой і людзьмі ў праўдзе. Гэта павінна распачацца ў сэрцы кожнага з нас.

З гэтай прычыны з'явілася ідэя гэтай улады – калі яна дазволіла некаторую рэлігійную свабоды – недастатковы. Гэтую сістэму трэба цалкам змяняць як сапсаваную і злую ад самых каранёў.

Чаму трэба прысвяціць Беларусь Беззаганнаму Сэрцу Марыі? Таму што Маці Божая аб гэтым сама папрасіла. Яна прасіла аб Расеі, але Беларусь успадкаеміла ад Расеі гэтую страшную сістэму. Некаторыя хрысціяне будуць пытацца, чаму




прысвяціць Беларусь Беззаганнаму Сэрцу Марыі. У Фаціме (Партугалія) ў 1917 годзе Маці Божая з'явілася дзецям, маленькім пастушкам, і папрасіла іх маліцца за навяртанне Расеі, бо, калі Расея не навернецца, сказала Маці Божая, то распаўсюдзіць свае памылкі па ўсім свеце.

І ў 1917 годзе адбылася бязбожніцкая рэвалюцыя, жудасныя наступствы якой мы ўсе цудоўна ведаем. І гледзячы на помнікі, на сімвалы, вернутыя з савецкіх часоў, мы бачым, каму мы належым, каго падтрымлівае сённяшняя ўлада. І які-небудзь касметычны рамонт Сэрцу Марыі, а не Ісуса. Там дзе Сэрца Марыі, там і Сэрца Ісуса, і наадварот. Напэўна, што д'ябал баіцца і Ісуса, і Марыю (Апакаліпсіс 12, Быццё 3,15). На сцягах святой Жанны Д'арк былі напісаныя менавіта гэтыя Імёны: Ісус і Марыя. Больш інфармацыі на гэтую тэму можна прачытаць тут: http://sercamaryi.blog.tut.by/.

Хочацца тут прыгадаць, што распад Савецкага Саюза прыйшоўся на свята Беззаганнага Зачацця Маці Божай, 8 снежня! У мінулым годзе была 20 гадавіна.

Другая важная справа – гэта Святыя Імшы і малітвы за Беларусь па

ўсёй краіне. Шмат людзей мараць, каб такія малітвы адбываліся па ўсёй Беларусі, каб людзі перапрашалі за грахі. У іншых краінах, дзе людзі маліліся шчыра, адбываліся сапраўдныя перамены і ў палітычным жыцці. У 1955 годзе, пасля сямі гадоў малітвы на Ружанцы тысячаў грамадзянаў, нечакана былі выведзеныя савецкія войскі з Аўстрыі. У 1960-х гадах ў Бразіліі і ў 1975-77 г.г. у Партугаліі існавала небяспека прыходу камуністаў да ўлады, але пасля малітоўных акцый з удзелам сотняў тысяч людзей, бязбожнікі атрымлівалі паразу. Двойчы – у 1986 і 2001 гадах – падчас масавых малітоўных акцый адбываліся мірныя рэвалюцыі на Філіпінах.

Да такой менавіта малітвы натхняе нас прыклад дабраславёнага ксяндза Ежы Папялушкі, які раз у месяц служыў Эўхарыстыю (Святую Імшу) за Польшчу ў складаны для іх краіны час, за што паплаціўся сваім жыццём. Кс. Ежы быў сапраўды добрым пастырам, які не пакінуў статак, калі прыйшлі ваўкі. Ён стаў, як Майсей, у абароне свайго народу, асабліва тых, якія былі несправядліва пакрыўджаныя, безпадстаўна асуджаныя і гэтак далей. Як хрысціяне мы разумеем важнасць і каштоўнасць Святой Ахвяры Хрыста ў Святой Імшы, і як вернікі ведаем, што ўсялякія перамены, як і змаганне са злом павінны распачацца з малітвы. Верым у моц Божую і моц супольнай малітвы Прыклад дабраслвёнага Яна Паўла ІІ, кс. Папялушкі, св. Жаны Дарк і іншых святых паказваюць нам, што вернік, святар, біскуп і нават Папа Рымскі могуць і павінны быць шчырымі патрыётамі сваёй зямлі. Наша любая Беларусь патрабуе глыбокага навяртання, пакаяння і ачышчэня. Разумеем, што нельга адкладваць гэтую справу, бо, калі гэта натхненне Божае і ад гэтага сапраўды залежыць лёс нашай Айчыны, Ён абавязкова запытаецца, чаму не выконваем Яго задання.

Калі б нашыя мітынгі, ці нават мірныя пратэсты супраць зла распачыналіся малітвай, быў бы іншы эфект, была б перамога с Хрыстом».

## За два дні ініцыятары руху «Беларусь для Хрыста» наведалі тры гарады: Мёры, Паставы і Віцебск

**Ініцыятары хрысціянскага міжканфесійнага руху «Беларусь для Хрыста» Юлія Фралова, Аляксей Шэін, Уладзімір Гоман распачалі паездкі па гарадах Беларусі. 13 траўня яны наведалі Паставы і Мёры ў Віцебскай вобласці, 14 траўня – Віцебск. У сустрэчах з імі ўжо ўзялі ўдзел некалькі дзясяткаў чалавек: вернікаў, грамадскіх актывістаў і іншых людзей добрай волі.**

«Падчас сваіх паездак мы імкнемся заклікаць людзей да малітвы. Мы імкнемся паказаць, што без малітвы, без стварэння супольнага малітоўнага руху значныя змены ў грамадстве і краіне немагчымыя. У гісторыі шмат прыкладаў, калі супольныя малітоўныя рухі прыводзілі да падзення дыктатарскіх рэжымаў і перамогі над злом. Так было ў Філіпінах, Партугаліі і іншых краінах», – адзначыла Юлія Фралова.



## Ініцыятары руху «Беларусь для Хрыста» наведалі Горадню і Баранавічы

**Ініцыятары хрысціянскага міжканфесійнага руху «Беларусь для Хрыста» Юлія Фралова, Аляксей Шэін і Уладзімір Гоман працягваюць сваю паездку па гарадах Беларусі. 15 траўня яны наведалі Горадню, а 16-га – Баранавічы.**

У сустрэчах узялі ўдзел каля двух дзясяткаў чалавек. У Горадні гэта былі ў асноўным людзі сталага веку, вернікі каталіцкай, праваслаўнай і пратэстанцкіх канфесій, у Баранавічах – грэка-каталіцкія вернікі.

«Сустрэчы прайшлі ў добрай і сяброўскай атмасферы», – распавяла Юлія Фралова.




## У Берасці і Бабруйску распавялі, чаму варта маліцца за Беларусь

**Ініцыятары хрысціянскага міжканфесійнага руху Юлія Фралова, Аляксей Шэін і Уладзімір Гоман наведалі Берасце і Бабруйск, дзе падчас сустрэчаў з мясцовымі хрысціянскімі і грамадскімі актывістамі распавялі, чаму варта маліцца за Беларусь.**

«Людзі з разуменнем ставіліся да гэтай ідэі. У наш час, калі людскімі сіламі выправіць сітуацыю ў краіне немагчыма, мы як вернікі мусім звярнуцца па Божую дапамогу, па Божае дабраславенне», – адзначыў Аляксей Шэін.

Ён таксама паведаміў, што ў чэрвені плануецца наведаць Мазыр, Гомель і Магілёў.

# ВІТАЛЬ РЫМАШЭЎСКІ. ШТО МОЖА АБ'ЯДНАЦЬ АПАЗІЦЫЮ ПЕРАД «ВЫБАРАМІ-2012»




**Мяркую, для ўсіх людзей, якія маюць здаровае меркаванне, у апошнія гады стала відавочным, што ў беларускіх рэаліях эфектыўнае супрацьстаянне рэжыму магчыма толькі пры наяўнасці адзінай стратэгіі, якая будзе кансалідаваць дэмакратычныя сілы. Аднак, па розных прычынах, апазіцыя не змагла выпрацаваць план сумесных дзеянняў на 2012 год. Замест гэтага дэмакратычныя партыі і арганізацыі будуць рэалізоўваць адразу некалькі стратэгій, выкарыстоўваючы розныя формы як байкоту, так і ўдзелу ў электаральнай кампаніі 2012 года.**

Я па-ранейшаму ўпэўнены ў тым, што адначасовая рэалізацыя двух сцэнарыяў - сапраўдная параза дэмакратычных сілаў. Галоўнымі палітычнымі тэмамі 2012 года могуць стаць не барацьба з рэжымам, а ўзаемныя абвінавачванні і скандалы ў асяроддзі апазіцыі.

Старт такой «перадвыбарнай кампаніі» быў дадзены газетай «Народная воля» 22 траўня 2012 у матэрыяле пра Статкевіча, дзе ўпершыню ад 19 снежня 2010 года на старонках незалежнай прэсы была зроблена спроба дыскрэдытацыі палітвязня, які знаходзіцца ў турме (ў матэрыяле гаворыцца пра кандыдата ў Прэзідэнты 2010 Статкевіча і яго жонку Марыну Адамовіч).

Прадказальны і галоўны вынік падобнай кампаніі – дыскрэдытацыя ўсіх дэмакратычных сілаў сярод насельніцтва і міжнароднай супольнасці, развал кааліцый і новыя магчымасці для лабістаў рэжыму.

Што ў гэтых умовах можа стаць кансалідуючай падставай для ўсіх без выключэння апазіцыйных палітычных сіл Беларусі?

Нагадаю, што з 2011 года асновай для сумеснай працы дэмакратычнай апазіцыі стала ПАГАДНЕННЕ «Аб умовах правядзення свабодных выбараў».

Вось яго галоўныя палажэнні:

1. Выбары не могуць лічыцца дэмакратычнымі, калі яны праходзяць у краіне, дзе існуюць палітычныя зняволеныя.
2. Выбары не могуць лічыцца празрыстымі ва ўмовах абмежавання правоў палітычных партый і структур грамадзянскай супольнасці, свабоды прэсы, мітынгаў і сходаў.
3. Выбары не могуць лічыцца законнымі, калі іх вынікі атрыманы ва ўмовах фактычнай няроўнасці палітычных сіл пры фарміраванні выбарчых камісій, абмежаванні рэальных магчымасцяў забеспячэння кантролю і вядзення назірання за ходам галасавання і падлікам галасоў, а таксама адсутнасці магчымасці правядзення незалежных сацыялагічных даследаванняў і інструментаў рэальнай абароны інтарэсаў выбаршчыкаў і кандыдатаў у судзе.

Пагадненне падпісалі: Беларуская хрысціянская дэмакратыя, БНФ, «Гавары праўду», Рух «За свабоду», Аб'яднаная грамадзянская партыя, Беларуская партыя левых «Справядлівы свет». Ніводзін прадстаўнік якой-небудзь іншай палітычнай сілы не выказаўся супраць гэтага дакумента.

Як бачым, да гэтага часу ні адна з гэтых умоў не выканана.

Беларускі народ сёння пазбаўлены права праз свабодныя, дэмакратычныя і справядлівыя выбары самастойна кіраваць сваёй краінай і фармаваць ўсе ўзроўні ўлады ў краіне.

З моманту абвяшчэння даты выбараў немагчымым становіцца выкананне практычна ўсіх вышэйпералічаных патрабаванняў.

Гэта азначае, што ўсе дэмакратычныя сілы, незалежна ад выбраных формаў кампаніі 2012 года, у дзень абвяшчэння даты выбараў могуць зрабіць сумесную заяву аб непрызнанні выбараў.

Непрызнанне выбараў беларусамі і міжнароднай супольнасцю ў выпадку, калі яны будуць праходзіць без выканання вышэйпералічаных умоў, можа і павінна стаць асноўнай мэтай, і яднаючай асновай для супрацоўніцтва ўсіх незалежных ад рэжыму беларускіх палітычных сіл.

У гэтым выпадку таксама стане магчымым пашырэнне дэмакратычнай кааліцыі і сумеснае правядзенне Усебеларускага Кангрэсу / Народнага сходу / Народнага З'езду (замест прадэклараваных ўжо некалькіх разрозненых ініцыятыў).

# БІБЛІЯ



***Быцьцё, Лікі, Кнігі Царстваў і Судзьдзяў, Пракокі, Эвангельлі, Дзеі, Пасланьні апосталаў і, нарэшце, Адкрыцьцё – для Беларусі гэта ня проста разьдзелы Бібліі. Гэта эпохі гісторыі. Прадбачаньні нацыянальнага лёсу. Главы беларускай ідэі.***

«У сей кнізе ўсяе прырожанае мудрасьці зачала і канець, Бог Уседзяржыцель пазнаван бываець. У сей кнізе ўсі законы і права, імі людзі на зямлі справаваціся маюць, папісаны суць. У сей кнізе ўсі лякарства душэўныя й цялесныя зуполне знойдзеце. Ту навучэньне філязофіі дабранраўнае, як любіці Бога для самога сябе і бліжняга дзеля Бога» – напісаў у прадмове да «Бібліі» Скарына.

«На пачатку было Слова, і Слова было ў Бога, і Слова было Богам». (Яна 1:1-2)

Біблія – Божае адкрыцьцё для чалавецтва, Кніга Кнігаў і Асноўны Закон усіх часоў і народаў. Біблія – духовая плятформа, што нясе на сабе Беларусь, і адначасова поўная энцыкляпедыя нацыянальнай ідэі.

Слова Бібліі ўгрунтоўвала падмурак беларускай старажытнасьці, Сярэднявечча, адраджэньняў, захоўвала падваліны беларускага духу пад акупацыяй. Біблія спрадвеку была галоўным падручнікам у беларускіх школах, калегіюмах, Віленскім Унівэрсытэце й Полацкай Акадэміі. На Бібліі стаіць Статут ВКЛ. 1000 гадоў беларускай гісторыі можна з поўным правам назваць тысячагодзьдзем Бібліі.

Ключавыя фэномэны беларускасьці – мэнтальныя, грамадзкія, культуровыя – зыходзяць менавіта са Сьвятога Пісьма. Духовасьць. Ахвярнасьць. Вера й любоў. Талеранцыя й цярплівасьць. Кнігацэнтрызм. Паэтычнасьць. Культ Слова. Закон. Храм. Крыж... Найвышэйшыя нацыянальныя героі Беларусі былі людзьмі Бібліі.

«Слова Божае жывое й дзейснае, і вастрэйшае за любы меч двусечны, яно пранікае да разьдзяленьня душы й духа, суглобаў і мозгу, і судзіць помыслы й намеры сардэчныя» (Да Габрэяў 4:12)

Зь перакладам, перапісам або друкам Бібліі распачыналіся ўсе абуджэньні Беларусі.

На манускрыптах Сьвятога Пісьма, зробленых за Ізяславам, Усяславам Чарадзеем ды Эўфрасіньяй, як на агульнахрысьціянскай Канстытуцыі, грунтавалася грамадзтва Полацкага княства. Лаўрышаўскае, Аршанскае, Друцкае Эвангельлі, «Дзесятаглаў» і «Смаленскі Псалтыр» фармавалі адзіную духовую прастору Вялікага Княства Літоўскага. Друк «Бібліі» Скарыны паклаў пачатак Залатому веку, які, у сваю чаргу, набіраўся моцы ў «Катэхізісе» Буднага, Астроскай ды Берасьцейскай Бібліях, «Эвангельлі Вучыцельным» з заблудаўскай друкарні й «Эвангельлі Напрастольным» друкарні Мамонічаў. З канца XVIII ст. да пачатку XX ст. у Беларусі не было надрукавана ніводнае кнігі Бібліі – і паглядзіце, гэта былі самыя страшныя часы нашае гісторыі. Але затым пераклады й выданьні Дзёкуць-Малея, Луцкевіча й ксяндза Гадлеўскага далі штуршок да беларусізацыі ўсіх канфэсіяў напачатку XX ст., Татарыновіча, Пятроўскага й Станкевіча – паваеннае ды эміграцкае Беларусі, Чарняўскага й Сёмухі – найноўшага Адраджэньня.

Бо напісана: «Не хлебам адзіным будзе жыць чалавек, а ўсякім Словам, якое зыходзіць з вуснаў Божых». (Мацьвея 4:4)

Менавіта Біблія старонку за старонкай расхінала перад беларускай місіяй усю Ўсходнюю Эўропу. Выданьне Скарыны адкрывала Бога Вялікай Літве, «Апостал» Фёдарава й Мсьціслаўца ды «Псалтыр рыфматворны» Полацкага ператваралі Расею, львоўскія й Астроскія выданьні беларускіх друкароў – будавалі Украіну, Радзівілаўская Біблія й «Новы Запавет» Буднага фармавалі Польшчу.

Як у агромністым тыглі, у сярэднявечнай Беларусі пераплаўляліся пераклады й друкі праваслаўнага й каталіцкага канонаў, пратэстанцкае й юдэйскае традыцыі – каб даць сьвету вялікія асобнікі Бібліі. Скарынаўскую «Біблію Руску» чацьвёртую ў сьвеце (пасьля нямецкай, італійскай і чэскай) друкаваную на жывой мове народу, з блісккучымі прадмовамі й унікальнымі гравюрамі. «Берасьцейскую» або «Радзівілаўскую», 1563 г., з найвялікшай руплівасьцю перакладзеную й шыкоўна аздобленую. «Астроскую» 1581 г., першую поўную сярод славянскіх народаў.

«Уважае Гасподзь і чуе гэта, і перад абліччам Яго пішацца памятная кніга пра тых, што баяцца Госпада й шануюць імя Яго.» (Малахіі 3:16)

Беларусь, якая глядзіць у Біблію, пазнае сябе. Беларуская гісторыя зьяе Старым і Новым Запаветамі насьледуе Бібліі як напісанаму сцэнару. Беларуская літаратура карэніцца ў мацерыку біблійнага тэксту, і дагэтуль, да Купалы й Барадуліна, скразіць матывамі, цытатамі й паралелямі ад Быцьця да Адкрыцьця. Беларусь сама – жывая ілюстрацыя да Бібліі.

Біблія выпаўнялася ў Сэрцы Эўропы, бо Беларусь здаўна была каўчэгам для Слова Божага.

Біблійнасьць беларусаў часам дасягае вяршыняў богаабранасьці. Ды й ці можа быць інакш – калі Беларусь пакутвала й ахвяравалася за ўсіх суседзяў, калі апошнія стагодзьдзі тут жыў Ізраіль!...

У Эўропе знойдзецца няшмат такіх народаў, для якіх прыярытэт Сьвятога Пісьма як галоўнага Слова быў бы настолькі відавочным.

Таму сучасны супэрпраект для Беларусі – гэта нават не пабудова Нацыянальнай Бібліятэкі за 10 мільёнаў даляраў, а выданьне 10-мільённым накладам Нацыянальнае Бібліі. Бібліі, якая зьбярэ, як Расейскі Сінадальны, ці Жэнеўская Біблія ўвадно, зь беларускіх выданьняў Сьвятога Пісьма боганатхнёнае Слова, да апошняе літаркі.

... Бо ўсё, што вы чытаеце ў гэтай кнізе – толькі камэнтары да Бібліі.

*Кніга Паўла Севярынца «Люблю Беларусь»*

# План мерапрыемстваў у Будславе 2012



**Сёлетні фэст у гонар Маці Божай Будслаўскай пройдзе 6–7 ліпеня пад дэвізам «Марыя — Маці Збаўцы» і стане падрыхтоўкай да 400-гадовага юбілею присутнасці тут цудадзейнага абраза, што адбудзецца ў 2013 годзе. Прапануем праграму:**

**6 ліпеня (пятніца)**

13.00–17.00 — сустрэча і прывітанне пілігрымаў кусташам санктуарыя
18.00 — святая Імша для пілігрымаў
20.30 — Акафіст (хор Грэка-каталіцкай Царквы)
21.00 — марыйныя Нешпары
23.00 — святы Ружанец
24.00 — працэсія і святая Імша

**7 ліпеня (субота)**

02.00 — распачынаецца моладзевая праграма ў палатачным гарадку
02.00 — святая Імша паводле грэка-каталіцкага абраду
04.00 — адарацыя Найсвяцейшага Сакрамэнту
05.30 — Гадзінкі аб Беззаганным Зачацці Найсвяцейшай Панны Марыі
06.00 — святы Ружанец
08.00 — святая Імша
11.00 — святая Імша (падчас літургіі адбудзецца малітва за асобаў, якія адзначаюць 25- ці 50-гадовы юбілей — святарства, законнага жыцця або сужэнства. Юбіляры атрымаюць спецыяльнае благаслаўленне). Выстаўленне Найсвяцейшага Сакрамэнту, працэсія.
13.00 — святая Імша.
У праграме могуць быць змены.
http://catholic.by/









**Шаноўныя браты і сёстры!**

Калі Вы жадаеце атрымліваць бясплатную штомесяцовую рассылку БХД (чарговы нумар газеты «Крыніца«, буклеты, узоры для збору подпісаў і г.д) – калі ласка, паведамце нам праз пошту

**220123, г. Мінск, а/с 324**,

ці e-mail: **bchd.mail@gmail.com**

або тэлефон – **8 029 1673435 (Марына)**.

Незалежнае інфармацыйнае выданне
Заснавальнік і выдавец: цэнтр«Сьветач»
Надрукавана на ксераксе п. М.Кухты Наклад: 299 ас.
Галоўны рэдактар: Павал СЕВЯРЫНЕЦ

Аб'ём: 12 палосаў А4. Падпісана ў друк 21 чэрвеня 2012 г.Тыражаваньне і распаўсюд усімі зацікаўленымі асобамі дазваляецца і вітаецца.
Распаўсюд бясплатны.